камі. Але спадзяюся, што гэныя людзі не паслухаюць намоваў нашых непрыяцеляў і вырадкаў і пойдуць з праўдай, бо гэтак кажа ім іхняе сумленьне.

Канчаючы свой ліст, не магу змоўчыць аб адным вось гэткім факце.

Калі старшыня гуртка м-ка Іказьні грам. Мікалай Дварэцкі зьвярнуўся да былога загадчыка школы польскай у м-ку, адказуючы на яго ліст пабеларуску, дык ён, зьвярнуўшы грам. Мік. Двар. назад ягоны ліст напісаў пад сподам папольску гэтакае: „uprzszam pisać po polsku, bo psiego pisma nie rozumiem". Вось як называюць саламяныя Палякі нашае пісьмо, нашую мову! Хай ведае аб гэтым сьвет і хай ведаюць усе тыя, хто ліпніць да саламяных Палякоў!

*Пуга.*

### За ўсё кары.

(В-ка Жойдзікі, Язьненскай вол.).

Паліцыя, ня маючы чаго рабіць, шукае прычыны, каб зрабіць які-небудзь пратакол.

У маі адзін гаспадар зрабіў рэмонт свае паветкі. Паліцыя, абачыўшы гэта, зрабіла пратакол, затое, што без дазваленьня асьмеліўся направіць сваю будыніну. Пратакол пайшоў у Суд, дзе судзьдзя налажыў на мяне кару 3 дні арышту.

Калі-ж напасьледак перастане гэты зьдзек польскай адміністрацыі?

*Жойдзішны.*

## Зь Незалежнае Літвы.

### Да літоўска-радавай умовы.

Літоўскі прэм'ер-міністар Сьлежэвіч сказаў прадстаўніку агенцыі „Elta": «Гэтаю ўмоваю Радавая Расея пацьвярдзіла ўсе, а значыцца й тэрытарыяльныя, прынцыпы літоўска-радавага трактату мірнага з 1920 году. Гэтакім спосабам дагэтуляшнія выясьненьні польскія, як-бы рыскім трактатам паміж СРСР й Польшчай былі зьменены тэрытарыяльныя прынцыпы маскоўскага трактату, ня могуць ужо цяперака мець жаднае асновы, бо ўрад СРСР 28 верасьня, пацьвярджаючы ў першым артыкуле ўмовы тэрытарыяльныя прынцыпы трактату з 1920 году, нанова прызнае Вільню Ліцьве. Апрача гэтага СРСР заявіў яшчэ ў асобнай ноце адумысьле ў віленскай справе, што гвалт Жэліґоўскага й зламаньне ўмовы сувальскай жадным спосабам не зьмянілі становішча СРСР што да належнасьці Віленшчыны да Літвы. Гэтакім спосабам урад СРСР заявіў, што ня прызнае ані гвалту Жэліґоўскага, ані пастановы Рады Амбасадораў.

*Калі-ж чужак твае пароґі*
*Зняважыць будзе мець адвагу,*
*Ня будзь дзіцям, давай нароґі*
*На меч каваць і гнаць брадзягу.*

К. Сваяк.

# НАВІНЫ.

**— Пашпарты студэнтам.** Выдадзены загад, каб свабодна выдаваліся заграні́чныя пашпарты студэнтам, што едуць вучыцца заграніцу. Цяперака адменена шмат ранейшых формальнасьцяў пры даставаньню гэтакіх пашпартаў.

**— Аб праваслаўнай духоўнам сэмінарыі.** Епіскап Сымон адмовіўся заняць урад рэктара віленскай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі. Дзеля гэтага спаўняючым абавязкі рэктаравы пакуль што астаецца сьвяшч. Тучэмскі.

**— Забаранілі імшыць.** Протоерэю В. Гапановічу за адмову здаць евангельле, царкоўныя рэчы й маемасьць забаронена імшыць імшу.

**— Магістрат рупіцца аб частаваньню.** Дзеля прыезду ў Вільню дэлегацыі чэхаславацкіх лекароў, магістрат зьвярнуўся ў мініст. ўнутраных справаў з просьбаю даць тысячу зал. на прыймо дэлегацыі. Вось на што йдуць народныя грошы, а людзі галадаюць.

**— Хвальшывыя залатоўкі.** Зьявіліся хвальшывыя 20-ці залатоўкі. Пазнаць іх даволі цяжка.

**— Час службы ў войску.** Ваеннае міністэрства наказуе: Рэкруты сёлетняга набору будуць улучаны ў армію ў двух тэрмінах: часьць — паміж 12 і 14 кастрычніка сёлета, рэшта — паміж 17 і 19 сакавіка 1927 году.

Час службы ў войску устаноўлены гэтакі: 1) у пехаце, жандармэрыі, абозах, адзьдзелах артылерыйскае службы, у інтэндантцтве і службе санітарнай—18 месяцаў бяз перарываў; 2) у артылерыі (апрача коннае артылерыі)—18 месяцаў з тым, што цераз 12 месяцаў часьць жаўнераў атрымае водпуск на 6 месяцаў, пасьля чаго мусіць вярнуцца даслужыць рэшту—йшчэ 6 месяцаў; 3) у кавалерыі і коннай артылерыі—25 месяцаў; 4) у адзьдзелах танкаў, лятуноў, баонах сапэраў, чыгункавых, сувязі і ваеннага флёту—24 месяцы; 5) у корпусе аховы паграніччa—25 месяцаў.

**— Звальняньне запасных з прычыны хваробы.** Звальняньне пакліканых на вучэньне запасных з прычыны хваробы іх будзе адбывацца на такой-жа падставе, як і звальняньне рэкрутаў,—значыцца на падставе пастановы вайскова-лекарскае бальнічнае камісыі, якая мусіць быць падпісана трыма дохтарамі. За найболей важную прычыну лічацца тыя хваробы, якія былі набыты ў сувязі з адбываньнем вайсковае службы.

## З Польшчы.

### Будзе забастоўка ў валакнянай прамысловасьці?

Дзеля няўдачы нарады, склíканай віцэ-прэм'ерам Бартлем з учасьцем прадстаўнікоў работніцкіх і прадпрыемцаў, магчыма, што ў валакнянай прамысловасьці ў Лодзі будзе ў бліжшыя дні забастоўка. Хвабрыканты згадзіліся на 5 процэнтаў прыдатку, а работнікі вымагаюць 15 проц. Прадстаўнікі работніцкія наказалі саюзам аб тым, як ідуць перагаворы. У бліжэйшыя дні будуць работніцкія вечы ў Лодзі. Калі ня будзе новых перагавораў, дык саюзы абвесьцяць забастоўку, каторая абыйме каля 100 тысячаў работнікаў у Лодзі й лодзінскім раёне (Жырардове, Згержы, Заверці, Петракове й Варшаве).

### Пілсудскі побач з Мэйштовічам.

Наказуюць, што прэм'ер Пілсудскі, адчыняючы першае паседжаньне рады міністраў, сказаў: Раўнавага ў кіраваньню гаспадарствам забясьпечуецца тым, што раз кіруюць консэрватары, другі раз т. зв. лявіца. Цяпер я папрасіў прадстаўнікоў абедзьвых старонаў. Да правых належаць п. п. Мэйштовіч, Незабітоўскі, я й Рамоцкі, да левіцы—рэшта.

## Ліст з Аргентыны.

### Усім тым, хто хоча ехаць у Амэрыку.

У вапошнія часы шмат людзёў стала выяжджаць у Амэрыку на заработкі. Прычына гэтага, як усім ведама, тая, што дома стала трудна жыць, а ў Амэрыцы, як у нас здаўных прывыклі думаць, грошаў і куры не дзяўбуць. І едуць ня толькі тыя, што дома ня маюць з чаго пражыць (такіх едзе мала, бо ня маюць грошаў на дарогу), але навет і тыя, што і дома маюць кусок хлеба, бо гэтакі скарэй зьбяры грошаў на дарогу, але як першыя, так і другія горка каюцца і плачуць прыехаўшы сюды.

У Паўночнай Амэрыцы жыць добра, як чуваць. але туды ня пушчаюць і ўсе едуць у Паўднёвую Амэрыку, у Бразылію, Урагвай і найбалей у Аргентыну. Я, як пражыўшы даволі часу ў Аргентыне, хачу прасьцерагчы сваіх Беларусаў ад гэтага няшчасьця. Праўда, была некалі Амэрыка, але ужо кончылася. З тае прычыны, што ехаць можна цяпер толькі ў Паўднёвую Амэрыку, сюды схлынулі эміґранты з усяго сьвету, так што работу знайсьці стала надта трудна навет тым, хто знае якоенебудзь майстроўства. А хто і найдзе работу, то плацяць толькі як пражыць. Тыя, хто прыехаў уперад, калі было меней эміґрантаў, якколек лепей устроіліся, але надта трудна тым, хто прыехаў у вапошнім годзе. Дый едуць ад нас большай часьцяй ня знаючы ніякага рамясла. У Буэнос Айрэсе патрымаюць які тыдзень і калі сам нідзе не выедзе, дык адсылаюць партыямі дзе далёка ў глыб краю на работу ў лес або зялезную дарогу. Там плацяць як толькі пражыць, а праз паўмесяца, або месяц дадуць рашчот і ідзі куды хочаш бяз грошаў. А другі і сам ня вытрывае, кіне ды пойдзе куды вочы глядзяць. Бо работа ў тутэйшым лесе ня тое, што ў нас; пілаў няма, а сякуць сякерамі, дрэва цьвёрдае, як зялеза, жыць трэба ў лесе, нападаюць хмарамі маскіты (такія кузуркі, страшна кусучыя, мясцамі ёсьць павукі вялічыні як кулак, каторы як укусіць, то чалавек уміpae), вады часта няма. І за такую работу дастае 20 або 30 пэзаў у месяц. (Адна пэза раўняецца 80 кап. старых расейскіх, за даляр плацяць 2 з палавіцай пэзы). Гэта паводле тутэйшых цэнаў на ўсё зусім мала, бо, напрыклад, кілё хлеба стоіць 40 сэнтаваў. (У пэзе 100 цэнтаваў). Так сама і на зялезнай дарозе. А хто лучыць у хвабрыку, то прынукаюць працаваць таксама цяжка ды ў нездаровых варунках, як напрыклад, у сьцюдзёных скляпох, дзе марозяць мяса, або іншыя прадукты; а на дварэ гарачыня, так што часта прастуджуюцца. Ды тут і хвабрык зусім мала, бо Аргентына край земляробскі. Заработкі найлепшыя бываюць улетку, як зьбіраюць з палёў. Тады зарабляюць па 4 і навет, хто спрытны, 5 пэзаў на гаспадарскіх харчох, але працуюць увесь дзень ад усходу да заходу на страшнай гарачыні. А забралі з по-

Вось адзін з адрыўкаў дзеля прыкладу:

„...Што за голас ходзіць, бродзіць,
„Сказы дзіўныя заводзіць,
„Ажно йдзе па целе шорах?
„Ці то друг наш, ці то вораг?
„—Гэта ходзіць кліч на полі
„З прыклíканьнем к новай долі;
„Пад вакнамі станавіцца
І заве, заве збудзіцца".

Верш „*1914-ты*", напісаны ў канцы гэнага году пад уплывам Міцкевічаўскага „Rok 1812-sty", дзякуючы аналёгіі ў гістарычных падзеях гэных гадоў,—адзначаецца вялікай сілай пачуцьця і дабраpoднай павагай свайго патосу; вось яго пачатак:

„Заходзіш ты туды окуль ня
[прыходзяць,
„Але сваіх не забярэш сьлядоў...
„О год! такіх як ты, час рэдка родзіць.
„О год! ты першы гэткі з між гадоў.
„Прыйшоў ня з згоды і свабоды
[весьцяй
„І—не ўзьвялічыць праўду між
[людзьмі, —
„Жыцьцём міліёнаў ты прыйшоў
[затрэсьці.
„Шлях вымасьціць свой трупамі,
[касьцьмі.
„Касьцялявай зморай з гібелі
[сталецьцяў
„Ты як праклядьце, будзеш вызіраць,
„І будзе маці страшыць табой дзеці,
„Ды клікаць той—хто ўздумае
[ўміраць".

Гэткай-жа сумнай павагай адзначаецца і чарговы верш „*Вясна 1915-я*":

„Дык вось-жа як прыйшла яна —
[жаданая вясна —
„Ў кароне з зелені і кветак,
[з пошаптам бяроз!
„Ядыная з паміж былых сясьцёр
[сваіх яна:
„Не разьвясельвае душы і ня ўцірае
[сьлёз...

У пісаным сардэчнай крывёй і завараЖываючым арыгінальнай хвормай вершы п. н. „*На сход*", аўтар кліча народ беларускі на „ўсенародны, грозны, бурны сход" каб аддаць яму на суд „свае ўсе крыўды, сьлёзы, кроў".

Канцавы верш гэтага адзьдзелу п. н. „*Цару неба і зямлі*" прадстаўляе з сябе поўны атчаю крык да Бога з просьбай зьлітаваньня над народам беларускім; асабліва характэрным для гэтага вершу ёсьць мамэнт протэсту проці іствуючага парадку; бунт проці волі Божай і на'т рэлігійны сумлеў, адносна самога істнаваньня Бога, які ў першы раз выяўляецца тут у аўтара ў гэткай войстрай хворме; пачынаецца верш гэтак:

„За што, о Божа праведны, магучы,
„Караеш так няшчасны свой народ?
„Чаму на стогн маўчыць Твой гром
[бліскучы,
„На стогн, што да Цябе йдзе з год
[ў год?"

канец-жа вершу такі:

„Паймі! пачуй! Сон наш і свой
[стрывожы, —
„Закон і суд свой праведны пашлі!..
„Вярні нам Бацькаўшчыну нашу,
[Божа,
„Калі Ты Цар і неба, і зямлі!"

Зьмешчаны ў гэтым адзьдзеле цыкль вершаў п. н. „*Песьні вайны*" (ст. 28—36)—не адзначаецца вялікшай вартасьцяй, дзеля чаго спынацца над ім ня будзем.

Гэтым канчаем агляд першага адзьдзелу „*Спадчыны*".

*Сьветавар.*

